© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 28 3 – 9 лістапада 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

**5 ПРАГРАМ тэлебачання — 3-я старонка**

Усміхнёмся, палітыкі!

## КДБ – У ВІЛЕЙЦЫ

**ВІЛЕЙКА.** *Сцэна гарадскога Дома культуры бачыла "зорак". "Песняры", Аляксандр Саладуха, "Сябры"... "Зоркі" з іншага шэрагу былі тут днямі. Станіслаў Багданкевіч, Генадзь Карпенка, Аляксандр Дабравольскі.*

Зразумела, што зоркі-палітыкі і паводзяць сябе інакш, і знешнія атрыбуты не такія. Хаця мэта і ў іх, як і ў зорак эстрады, мабыць, адна. Спадабацца публіцы.

Трыо новай аб'яднанай Грамадзянскай партыі вілейчанам спадабалася. Прынамсі, той іх частцы, што адклалі свае справы і прыйшлі на сустрэчу.

Цікавым было адно: з якой мэтай саратнікі па Грамадзянскай партыі ў гэтыя напружаныя дні перадвыбарнага марафона прыехалі ў Вілейку, якая свайго дэпутата Уладзіміра Варашніна ўжо абрала? Папулярызацыя партыйных поглядаў ці падтрымка іміджу старшыні абласной арганізацыі сп. Альфера, які, жывучы ў Вілейцы, вопыт у наладжванні такіх імпрэз мае? Хутчэй за ўсё і тое, і другое. Ды не гэта галоўнае. Сустрэча сапраўды адбылася цікавай.

Розны тэмперамент "зорак" удала дапаўняў адзін адно. І калі Генадзь Дзмітрыевіч, вядомы сваёй гібкасцю, здолеў абысці падводныя камяні пытанняў з залы, то імпэт Станіслава Антонавіча і не шукаў свайму крэйсеру спрыяльных плыняў. Стары эканаміст і малады палітык, як ахарактарызаваў сябе С. Багданкевіч, дакладна і коратка падаючы тэзісы аб дзейнасці партыі, не абыходзіў вострых пытанняў з залы. "Калі мы хочам гандляваць сваёй незалежнасцю, то нічога не атрымаем", "У нас не павінна быць нацыяналізму. Панславянскага нацыяналізму таксама", "У мяне няма вялікай сімпатыі да свайго народа. Ён заслугоўвае таго, чаго заслугоўвае",– вось некаторыя з рэплік, тэму якіх напорыста і даходліва развіваў былы галоўны банкір нашай краіны, а сёняшні старшыня новай партыі, 58-гадовы бацька нованароджанага Паўла. Відаць,гэтай напорыстасцю і шчырасцю з аўдыторыяй ён і прыцягнуў да сябе ўвагу.

Аляксандр Дабравольскі, у адрозненне ад сваіх калег, стараўся больш злагодзіць рэзкасць выступленняў папярэднікаў.

Пытанні з залы былі розныя. Пазіцыі гасцей вілейчан не заўсёды супадалі, але былі блізкімі, што зразумела, бо гаворка пра аднапартыйцаў. Калі Карпенка на пытанне аб стаўленні да БНФ адказаў проста: "Стаўлюся як да часткі свайго народу, якая складае 15 %", то Дабравольскі на аналагічнае пытанне адказаў больш дыпламатычна: "Мы падтрымліваем многія пункты іх праграмы, але ў галаву ставім прынцыпы грамадзянства"...

І хаця сустрэча была сапраўды цікавай, і газета "Грамадзянін", якую разносілі між радоў, заклікала да кансалідацыі грамадства, зала ў асобе яе "некаторых прадстаўнікоў" неадназначна рэагавала на выступаючых. Ці то сказвалася суседства сталоўкі "Вяснянка", дзе на разліў заўсёды можна перакуліць пару-другую кілішкаў "Празрыстай", ці то надвячорак цягнуў на разважанні непалітычныя, але...

Але адна з жанчын усё ледзь не біла сябе ў грудзі, выкрыкваючы: "Мяне сумленныя людзі гадавалі", даючы зразумець іншым, што не ўсім на сумленных з выхавацеляў пашчасціла. Але адна дзяўчынка, выходзячы з залы, казала матулі: "Раней на канцэртах тут цікавей было"...

Але адзін з мужчын, пакідаючы залу, выгукнуў: "Усё адно, малако і смятану як разводзілі вадой, так і разводзяць"...

Прычым КДБ, спытаецеся? Карпенка, Дабравольскі, Багданкевіч да гэтай арганізацыі, зразумела, ніякіх адносін не маюць. Пашчасціла ім проста ў адной кампаніі сабрацца – Карпенку, Дабравольскаму і Багданкевічу.

*Мікола ГАЙДУК*

## Свой магазін да сваіх жа вяндлін

**СМАРГОНЬ.** *Прыкладна па такім прынцыпе дзейнічае мясцовы саўгас "Рассвет". У гэтым змаглі пераканацца нават жыхары сталіцы.*

Мінчане ў свой час былі прыемна здзіўленыя, калі на прылаўках магазінаў з'явіўся кетчуп з кідкай этыкеткай з не менш кідкімі надпісамі "KETCHUP VILIA", а таксама "Произведено в г. Сморгони".

Натуральна, сэрца беларуса больш грэў бы і надпіс беларускі, накшталт "Зроблена ў Смаргоні", але і так добра.

Добра, што у "Рассвете" з дапамогаю германскіх партнёраў змаглі наладзіць у цэху па вытворчасці яблычнага соку выпуск яшчэ і кетчупу. Цэлы мільён бутэлечак па 350 грамаў выпусцілі.

У былой сталовай тут размясцілася хлебапякарня, разлічаная на выпуск 800 кілаграмаў хлебабулачых вырабаў за змену, а таксама вяндлярня. Дапамагло ў гэтым маскоўскае ТАА "Хіхон".

Працягвае Смаргоншчына сваю "экспансію на Усход". Спачатку з'явіўся магазін у Маладзечне, цяпер – у Мінску (фірменны таго ж "Рассвета"). Плануе саўгас адкрыць свой магазін і на Смаргоншчыне.

*Аддзел інфармацыі.*

## Ракіроўка

**ВІЛЕЙКА.** *На буйнейшым прадпрыемстве горада — заводзе "Зеніт" — адбыліся перамяшчэнні.*

Яшчэ некаторы час таму на прафсаюзнай канферэнцыі працоўны калектыў зенітаўцаў выказаў недавер тагачаснаму кіраўніку Станіславу Сінельнікаву. Менавіта з яго асобай многія звязвалі заняпад некалі найбольш перадавога ў горадзе прадпрыемства. Адначасова і на змену кіраўніцтва ўскладваліся вялікія надзеі.

Нечаканасцей не было. На чале завода стаў чалавек не новы – Мікалай Арсеньеў апошні час працаваў на заводзе галоўным інжынерам. Яго папярэднік Станіслаў Сінельнікаў заняў пасаду намесніка дырэктара.

*Таццяна МАРОЗ.*

## ...Ды і дачы ў прыдачу

*На мінулым тыдні на Мядзельшчыне працавала камісія адміністрацыі Прэзідэнта. Узначальваў яе памочнік Лукашэнкі У. Канаплёў. Члены камісіі пазнаёміліся з азёрным краем, вялі прыём грамадзян, пабывалі ў шэрагу працоўных калектываў, вывучалі грамадскую думку.*

У ходзе сустрэч людзі выказалі прэтэнзіі ў адрас праваахоўных органаў, шмат незадаволеных і размеркаваннем жылля. Некаторыя мядзельчане адпрацавалі на вытворчасці не адзін дзесятак год, але так і не займелі ўласнай кватэры, туляцца па інтэрнатах.

Сёння можна зразумець і кіраўніцтва раёна. Адсутнасць грашовых сродкаў моцна стрымлівае будаўніцтва жылля. У той жа час асобныя начальнікі, маючы трохпакаёвыя кватэры, пабудавалі сабе ў райцэнтры шыкоўныя катэджы, ды і дачы ў прыдачу яшчэ маюць. Памочнік Прэзідэнта У. Канаплёў выказаў меркаванне, што па такіх фактах вінаватыя будуць прыцягнуты да адказнасці. Многія людзі таксама прыкмячаюць, што прыезд камісіі паспрыяў істотнаму пашырэнню асартыменту тавараў у магазінах.

А цяпер гасцінная Мядзельшчына рыхтуецца да сустрэчы з самім Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, якая намечана на заўтра.

*Аддзел інфармацыі.*

## Пайшоў лес з малатка

**АСТРАВЕЦ.** *Адразу пяць прадпрыемстваў і фірм праявілі цікаўнасць да аўкцыёну па продажы лесу, што быў арганізаваны ў Астраўцы мясцовым лясгасам. Сярод іх былі вытворчыя аб'яднанні "Бел-Ост" і "Бел-Ока", цэх па выпуску тавараў лясгаса, а таксама АТ "Будаўнік" з Ашмян і Вілейскі завод будаўнічых дэталяў.*

На таргі выставілі дзевяць дзялянак лесу хваёвых парод. І пры стартавай цане ў 70 тысяч рублёў за кубаметр усе яны былі выкуплены, а кошт некаторых дзялянак нават вагаўся ў 100-120 тысяч за куб. Прыбытак ад аўкцыёну склаў 211 мільёнаў 250 тысяч рублёў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ*

**Падпіска па 1 паўгоддзе 1996 года на "Рэгіянальную газету" ідзе да 30 лістапада. Кошт яе на паўгоддзе – 24000 р., на 3 месяцы – 12000 р., на месяц – 4000 р. Не спазніцеся!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на** 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ** Колькасць камплектаў

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

Кошт: падпіскі ... руб.; пераадрасоўкі ... руб. Колькасць камплектаў

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



## Забастоўка на “Спадарожніку”

***Маладзечанскі радыёзавод “Спадарожнік” перажывае зараз не самыя лепшыя дні. Зарплату тут людзі не атрымліваюць ужо другі месяц. Гэты факт і прымусіў працаўнікоў цэха, дзе выпускаюць аўтамабільныя магнітолы “Тонар”, пакінуць рабочыя месцы і сабрацца ў актавай зале прадпрыемства.***

Апрача таго, такім чынам завадчане хацелі выказаць пратэст супраць скарачэнняў, якія адміністрацыя “Спадарожніка” плануе сёлета правесці непасрэдна у гэтым цэху. Прычынай такога рашучага кроку з'яўляецца, як тлумачыць кіраўніцтва, нерэнтабельнасць далейшай вытворчасці аўтамагнітол.

Ходзяць чуткі, што іх выпуск увогуле плануецца закрыць, а ў памяшканні цэха размясціць новую вытворчасць. Дарэчы, аб гэтым сведчыць і той факт, што некаторыя заводскія службы і падраздзяленні, якія размяшчаюцца ў адным будынку з цэхам па выпуску аўтамагнітол, перасяляюць ў іншыя карпусы.

Здавалася б, нічога дзіўнага і новага на сённяшні дзень няма ў такой палітыцы кіраўніцтва “Спадарожніка”. Аднак вядома, што яшчэ не так даўно яно рабіла стаўку на аўтамагнітолы і на падрыхтоўку вытворчасці іх было затрачана шмат часу і матэрыяльных сродкаў.

... У актавай зале перад работнікамі цэха, якія пакінулі вытворчасць, выступіў дырэктар “Спадарожніка” М. Андрэеў. Нічога новага, тым больш аптымістычнага, як гэта было раней, ён прысутным не сказаў. А на пытанне з залы, калі, нарэшце, на прадпрыемстве будзе выплачвацца своечасова зарплата, ён спаслаўся на вельмі цяжкае фінансава-эканамічнае становішча і прапанаваў тым, хто зусім на мялі, замест зарплаты браць аўтамагнітолу (яе кошт складае каля 600 тысяч рублёў) і прадаваць.

Аднак рабочыя тут жа падлічылі, што збыць яе будзе вельмі цяжка. Бо аналагічныя імпартныя ўзоры такога класа каштуюць на рынку дзешавей.

*Сяргей КАРПУК.*

## На Ільяншчыне ўпершыню з'явіліся гармонікі, якімі цяпер ганарацца маладзечанцы

***Прадукцыю Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў па былому Савецкаму Саюзу ведалі вельмі добра. Не было роўных прыгожым і пявучым гармоням з надпісам “Беларусь”, бадай, і ў цэлым свеце.***

А пачатак гэтаму сучаснаму прадпрыемству паклала незвычайнае захапленне вясковага майстра, простага чалавека з невялікай вёсачкі Суднікі, што на Вілейшчыне.

Гэтую вёску ў Ільянскім сельсавеце на картах нават невялікіх наўрад ці знойдзеш. Стаіць яна ўбаку ад дарогі Ілья - Вязынь. Менавіта тут з'явіліся незвычайныя сляпуча-белыя, з пераліваімі, высокія і вузкія інструменты. На прыгожа выпілаванай з алюмінію рашотцы схаваны ў арнаменце надпіс “Sudnik”. На крыху скошаным назад, на манер акардэона, выгінастымі краямі грыфе – 3 рады квадратных, адна пры адной, кнопак і яшчэ адзін дадатковы рад выцягнутых, як клавішы.

Тут у 1901 годзе нарадзіўся славуты майстар Мікалай Суднік.

Першыя гармонікі ён убачыў у час першай сусветнай вайны, калі непадалёк ад вёскі праходзіла лінія фронту. А ў 1925 годзе сам стаў майстраваць бліскучыя, сляпуча - белыя інструменты. Ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны Мікалай Суднік ствараe ў Маладзечне арцель “Чырвоны партызан”, бо заказаў на выраб гармонікаў паступала шмат і яму патрэбна была дапамога. Яго сусед, сталяр Пётр Яцуковіч, узяў на сябе падрыхтоўку дрэва і выпілоўку рам корпусу. Каб болей часу аддаваць вырабу гармонікаў, Мікалай Суднік наняў хлопцаў, якія дапамагалі яму па гаспадарцы. Разлічваўся з імі гармонікамі, навучаючы заадно і ігры.

Пасля гармоні звярнулі на сябе ўвагу аднаго з дэпутатаў, які пасля вайны прыехаў у Маладзечна і замовіў арцелі выраб баяна і гармоніка для ВДНГ. Поспех у Маскве паспрыяў стварэнню гармонікавай фабрыкі на базе менавіта маладзечанскай арцелі. Кажуць, на выстаўцы інструменты разбіралі, каб пераканацца, што яны не замежныя.

*Яўгенія СЕВЯРЫН*

## Фірменныя магазіны масласырзавода

**МЯДЗЕЛ.** ***Яшчэ адзін фірменны магазін масласырзавода пачаў нядаўна працаваць у вёсцы Нарач, дзе за дзве з паловай тысячы жыхароў.***

Завадчане спецыяльнага памяшкання не будавалі, а ўзялі ў арэнду свабодныя плошчы ў сельскім Доме культуры, які стаіць у цэнтры населенага пункта. Людзям зручна рабіць пакупкі, яны з ахвотай наведваюць новую, аднак стаўшую сярод жыхароў Нарачы ўжо вельмі папулярнай, гандлёвую кропку. Абслугоўваюць шматлікіх пакупнікоў былыя работніцы завода Ала Багінская, Вера Ворса, Іра Лукойць. Яны прапаноўваюць усім жадаючым не толькі прадукты харчавання, але і прамысловыя тавары. Да таго ж, малако і масла, тварог і смятана, сыры каштуюць тут менш, чым у дзяржаўных магазінах.

Некалькі раней фірменны магазін масласырзавода “Малако” адкрыты ў райцэнтры. Трэба адзначыць, што ён таксама адразу прыйшоўся даспадобы жыхарам Мядзела. Праўда, размяшчаецца ён пакуль у невялічкім пакоі, а пакупнікоў тут заўсёды шмат, таму дырэкцыя завода і прыняла рашэнне падшукаць для магазіна больш прасторнае памяшканне.

– Адкрыццё ўласных гандлёвых пунктаў,– расказвае галоўны эканаміст Нарацкага масласырзавода Любоў Бабчонак,– калектыву выгадна. Мы забяспечваем людзей якаснымі і смачнымі прадуктамі харчавання, і ўзамен маем, як кажуць, жывую капейку, якую можам выкарыстаць на самыя неадкладныя вытворчыя патрэбы, што пры існуючай эканамічнай нестабільнасці вельмі важна.

Дадам, што “капейчына” гэта не такая і малая. Штодзень з двух магазінаў завода паступае ў сярэднім больш за дзесяць мільёнаў рублёў.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ*

## Самы час паразважаць

***Набліжаецца дзень выбараў у мясцовыя і Вярхоўны Саветы. Ідучы насустрач пажаданням чытачоў, змяшчаем спіс кандыдатаў у дэпутаты ВС па гарадах Смаргонь, Маладзечна і Мядзел. У астатніх гарадах рэгіёна (акрамя Мінска, зразумела) дэпутаты абраныя.***

| Акруга | Кандыдат | Пасада |
|---|---|---|
| Смаргонь 142 акр. | Ірына ВЕШТАРТ | беспрацоўная |
| | Валерый БАТУРЫН | інжынер-канструктар ДМП “Інструмент” |
| | Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ | юрысконсульт будаўнічага прадпрыемства фірмы “Гонар” |
| | Зянон ПАЗЬНЯК | ст. навук. супрацоўнік інстытута гісторыі АН РБ |
| | Святаслаў САВІЦКІ | нам. гал. урача ТМА |
| Мядзел 201 акр. | Генадзь МАЛЫШАЎ | інжынер-механік санаторыя “Будаўнік” |
| | Эдуард ВАЙЦЯХОВІЧ | дырэктар Свірскага ПТВ-207 |
| | Пётр ГАВАРКО | начальнік РБА “Мінаблarбуд” |
| | Міхаіл ГАРДЫНЕЦ | ген. дырэктар ТАА “Нарач” |
| | Уладзімір ГРЫДЗЮШКА | прэзідэнт Беларускага фонда сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў “Мы - дзецям” |
| | Уладзімір РУЛЬКЕВІЧ | начальнік спецкамендатуры РАУС |
| | Анатоль САМАТОХІН | старшыня праўлення “Белаграпрамбанка” |
| | Георгій ТАРАЗЕВІЧ | Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ у рэзерве Міністэрства Замежных Спраў |
| Маладзечна 197 акр. | Міхаіл ЖУРЫХА | намеснік дырэктара ЗЛМК |
| | Анатоль КАРПЕНКА | пенсіянер |
| | Пётр КРАЎЧАНКА | старшы навуковы супрацоўнік аддзела інфармацыі АН РБ |
| | Любоў САЛАЎЁВА | беспрацоўная |
| | Генадзь ШАВЕЛЬ | дырэктар завода ЖБВ |
| Маладзечна 198 акр. | Данілея ЖУК | намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкома |
| | Іван КАНДРАЦЕНКА | дырэктар інфармацыйна-вылічальнага цэнтра Мінаблспажыўсаюза |
| | Аляксандр КАПУЦКІ | кансультант Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў |
| | Аляксандр ЛАЗОЎСКІ | уласны карэспандэнт Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі РБ |
| | Анатоль РАМАНОЎСКІ | намеснік старшыні па вытворчасці цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства інвалідаў |
| Маладзечна 199 акр. | Ігар БАБЕЙ | генеральны дырэктар фірмы “Алеся” |
| | Мікалай ЖАЛНЯРКЕВІЧ | дырэктар СП “Белакар” |
| | Тамара КАМАРОВА | галоўны ўрач цэнтра “Здароўе” |
| | Антон РАМАНОЎСКІ | прэзідэнт Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа |
| | Аляксандр СТРОК | дырэктар Красненскай СШ |
| | Васіль ЦЮШКЕВІЧ | намеснік начальніка вагоннага дэпо |

Да асаблівасцяў складу кандыдатаў можна аднесці прысутнасць некалькіх мінчан – як вядомых, так і не надта. Традыцыйна высокую актыўнасць праявілі прадстаўнікі ПКБ і БНФ.

Апошнія, да прыкладу, у Смаргонскай выбарчай акрузе выставілі ажно двух кандыдатаў. Хаця няма сумневу, што А. Дзергачоў здыме сваю кандыдатуру на карысць З. Пазьняка (ён, дарэчы, вылучаны шляхам збору подпісаў, якіх назбірана больш за 2,5 тысячы).

Самыя “пастаянныя” кандыдаты – у Маладзечне. Пераважная большасць веснавых няўдачнікаў ізноў выставілі свае кандыдатуры.

Словам, недахопу ў кандыдатах няма. А выбраць трэба, бо інакш не сціхнуць спрэчкі паміж галінамі ўлады аб легітымнасці-нелегітымнасці. Інакш нам гарантаваны неспакой у грамадстве.

***Аддзел інфармацыі.***

## Марцін Хілі, генеральны менеджэр ірландскай фірмы “CASHMANS”, сцвярджае, што яны далі магчымасць аматарам “Спортлото” Беларусі не перарываць 25-гадовы стаж удзелу ў гэтай гульні. Аляксандр Шальмакоў з ім не спрачаецца.

***Прафесійныя баі баксёраў у нашай краіне пачалі праводзіць параўнальна нядаўна. І практычна адразу не абышлося без скандалаў. Вось адзін з іх.***

***...Рынг у Мінску. Наш знакаміты Ігар Шарапаў ва ўсіх васьмі раўндах відавочна мацнейшы за ўкраінца Валерыя Віхора. Аднак, на немалое здзіўленне залы, два з трох бакавых суддзяў аддалі перамогу менавіта Віхору. Пасля матчу ў кулуарах упарта хадзілі чуткі, што прысутны на турніры адзін з дзеячаў маскоўскага прафесійнага боксу зрабіў у букмекераў стаўку. Як сцвярджалі затым людзі, блізкія да букмекерскай фірмы “Плюс-Минус & CASHMANS”, стаўка ў $300 дазволіла масквічу атрымаць значна болей. А такія рэчы мусяць быць абмеркаваныя і з суддзямі...***

Букмекеры ў Беларусі з'явіліся зусім нядаўна. Першай ластаўкай стала беларуска-расійска-ірландская фірма “Плюс-Минус & CASHMANS”.

На жаль, нямногія ведаюць, што ў Маладзечне дзейнічае філіял (букмекерская кантора) вядомай фірмы. Напачатку слова дырэктару гэтай беларускай фірмы ***Аляксандру Шальмакову.***

- З першых крокаў нашай дзейнасці ў Беларусі цяжэй за ўсё было змагацца з няведаннем сутнасці букмекерскага рамяства. Немагчыма расказаць, колькі намаганняў давялося прыкласці, каб патлумачыць, што букмекеры - не злодзеі ці хапугі, а людзі, чыя прафесія мае поўнае права на існаванне.

***- У Мінску, як відаць, з гэтым праблемаў практычна не існуе. А ў Маладзечне, дзе параўнальна нядаўна адкрыўся ваш філіял?***

- Гэтае пытанне да букмекера маладзечанскага філіяла Ірыны Мядзведзь.

- І тут былі свае цяжкасці, але цяпер у нас ёсць нават свае пастаянныя кліенты. Вы самі мяркуйце: немагчыма знайсці хаця б аднаго чалавека, які б ні разу ў сваім жыцці не спрачаўся. Але не абавязкова размахваць рукамі і нешта даказваць апаненту - калі вы лічыце сябе дастаткова ўпэўненым у зыходзе нейкіх падзей, прыходзьце да нас. Мы падбярэм вам дзесяткі апанентаў, а ўзнагародай стане не проста перамога ў спрэчцы, а пэўная сума грошай.

***- Аляксандр Іванавіч, а дзе яшчэ існуюць вашы філіялы?***

- Віцебск, Брэст, Магілёў, Баранавічы, Бабруйск. Чытачам вашай газеты можна звяртацца ў Мінск і Маладзечна. Прычым можна паспрабаваць угадаць не толькі вынікі матчаў, паядынкаў баксёраў і іншае. Некалі мы даказалі, што беларуская перадвыбарная кампанія - рэч не менш азартная за іпадромныя скачкі: у свой час мы прымалі стаўкі на ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты.

***- Ірына, раскажыце, калі ласка, аб асноўных адрозненнях букмекерскіх фірмаў ад латарэй.***

- З задавальненнем, бо на Захадзе гэта найбольш папулярны від гульнявога бізнесу. Каротка: чалавек робіць стаўку і ведае, які выйгрыш яго чакае ў выпадку поспеху. Напрыклад, футбол: “Маладзечна” гуляе з мінскім “Дынама”, выйгрышны каэфіцыент на “Дынама” - 45/10. Вы паставілі на мінчан 100000 рублёў. Яны выйгралі? Вы атрымліваеце 450000. Проста?

***- Зразумела, правілаў вашых нашмат болей. Вось мяне адразу зацікавіў наступны варыянт: я паставіў на “Маладзечна”, атрымалася нічыя.***

- Прыходзьце да нас, газетнай плошчы, напэўна, малавата будзе, каб патлумачыць усе тонкасці.

Згаданы ў загалоўку Марцін Хілі быў прыемна здзіўлены размахам дзейнасці сваіх беларускіх калег. У адным з інтэрв'ю (у “Народнай газеце”) ён, у прыватнасці, зазначыў:

- Натуральна, да майго роднага Корка (горад у Ірландыі - **рэд.**), дзе стаўкі прымае кожны другі, а робіць кожны першы жыхар, Мінску яшчэ далекавата, але я пагляджу з якім захапленнем і веданнем справы працуюць у Мінску. Упэўнены, што і ў Беларусі букмекерская справа атрымае такое ж распаўсюджванне, як і на Брытанскіх астравах.

Пасля такой ацэнкі іх дзейнасці “плюс-мінусаўцы” з яшчэ большай энергіяй узяліся за справу. Яны ўключылі ў сваю праграму “Спортлото”, “Лотто-миллион”, “Что? Где? Когда?”, пачалі практыкаваць гульні па пошце. У планах - значнае пашырэнне відаў паслуг. Словам, як сказаў бы вядомы палітык, фірма прыйшла ў краіну ўсур'ёз і надоўга.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

